# наша свабода

№90(177) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

22 ЖНІЎНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## «За новую Беларусь»

В воскресенье состоялось учредительное собрание республиканского общественного объединения (РОО) «За новую Беларусь». Свыше 300 делегатов от всех регионов республики утвердили Устав объединения. Председателем объединения избран Василий Леонов. Возглавляемый им оргкомитет общественного объединения "За новую Беларусь" способствовал объединению основных политических сил страны и выдвижению единого кандидата в президенты от широкой гражданской коалиции Владимира Гончарика.

Учредительное собрание избрало заместителями председателя РОО «За новую Беларусь» известного ученого Вячеслава Оргиша и опытного менеджера Ивана Антошкевича. В центральный совет РОО вошли видные общественные и политические деятели страны: Н.Гилевич, А.Вертинский, Г.Буравкин, С.Калякин, М.Маринич, М.Гирутъ, А.Рубанов, А.Ярошук и другие.

**Иван АНТОНОВИЧ**

## Обращение к руководителям

***Уважаемые руководители всех уровней!***

Обращаюсь к Вам как к своим вчерашним коллегам — десятки лет жизни я отдал управленческой деятельности. Понимаю всю сложность и ответственность вашей работы. Вместе с тем, даже находясь в тюрьме в 1996—2000-х годах, видел, как измываются над вами, загоняют в угол, запугивают. И сейчас знаю, как толкают вас на уголовное преступление инициаторы фальсификации президентских выборов. Представляю, как вам сейчас нелегко. Но в данном случае считаю уместным сослаться на свой собственный пример. Находясь на высокой государственной должности, я служил не Лукашенко, а интересам народа. Служил до тех пор, пока это было возможно. Поступаться гражданскими принципами, идти против законов — значит, делать зло своей Родине, лишать будущего наших детей и внуков. Сегодня для нас всех наступает момент истины. Впервые за последние семь лет Беларусь, как никогда, близка к выходу из того беспросветного тупика, куда ее загнал Александр Лукашенко. Выбор, который сделают белорусы 9 сентября, должен положить конец правовому и нравственному беспределу, чинимому А.Лукашенко. 10 сентября мы должны проснуться в совершенно другой стране, где слово «свобода» будет означать не пустой звук. Где установится реальное верховенство закона над политической злонамеренностью и своекорыстными амбициями. Где, наконец, для всех нас и наших детей появится перспектива достойной жизни.

Еще совсем недавно Беларусь считалась одной из самых развитых республик бывшего СССР. У нас было достаточно возможностей, чтобы жить так, как сегодня живут, например, чехи, чья средняя заработная плата составляет сейчас около 800 долларов. Но, к сожалению, нам приходится констатировать: большинство населения Беларуси за последние семь лет правления Лукашенко оказалось за чертой бедности.

Национальная экономика на грани катастрофы. Фактически ни одно из обещаний, данных семь лет назад Александром Лукашенко, не выполнено. Теперешний средний доход белоруса составляет в месяц около 70 долларов, а в сельском хозяйстве — всего 20 долларов. В Польше за этот период средняя зарплата выросла с 285 до 370 долларов, в Литве — со 163 до 281. Накануне президентских выборов белорусский народ продолжают соблазнять стодолларовой зарплатой, хотя уже сейчас очевидно, что большинство наших людей ее не получит.

*Окончание на стр.4*

# «Нельзя, чтобы этот вопрос был просто похоронен»





Я, бывший военнослужащий части спецназа внутренних войск, хочу рассказать следующее. Я проходил службу в военной части 3214 во внутренних войсках Республики Беларусь. Потом я служил в СОБРе, на базе под Бегомлем. Так в сентябре 1999 года мне довелось стать свидетелем событий, которые, как я полагаю, имеют прямое непосредственное отношение к исчезновению в тот период политиков Гончара и Красовского. Все это время я боялся рассказывать про это, потому что люди, которые участвовали в этих делах, готовы на все.

В первой роте, которая состояла из более чем ста человек, была группа «сверхсрочников», которые служили не так как все. Они все в принципе «краповые береты». Группа находилась в непосредственном подчинении командира первой роты тогда майора Павличенко. Примерно где-то раз в неделю эти люди выезжали куда-то за пределы части. Выезжали они обычно в гражданской одежде, при этом получали оружие и маски. Выезжали на моей памяти довольно часто. Служба этой группы проходила так, что в принципе никто не знал, какие задачи выполнял, кроме непосредственных их исполнителей, ну, и конечно, командир. Команды отдавал сам непосредственно Павличенко. Там был еще прапорщик такой — Балынин — по кличке Балу. Но Павличенко всегда командовал сам лично. Балу на задания не брали — он толстый, неповоротливый.

Выезжала группа на двух машинах — БМВ 525 и «Ауди» 200 красная. Двухсотая «Ауди» это американский вариант обычной «Ауди»-«сотки». Машины принадлежали СОБРу. Они все были взяты из «конфиската». Номера на машины вешались любые — гражданские, красные, любые номера, целая куча номеров была, и доступ был ко всем. Очень часто ездили, например, номера 02 21 ММ и 02 24 ММ. На лобовых стеклах машин вот этих двух были пропуска всюду. В простонаречии «нечапайки». С такими пропусками никто машины не останавливал — ни ГАИ, ни ВАИ, никто. Чуть позже появился бордовый микроавтобус «Форд», тоже с таким вот пропуском. У всех машин были тонированные стекла. Да, еще был периодически белый «Опель».

Тогда в 1999 году в середине сентября эта группа вечером на БМВ и «Ауди» поехала как обычно в город. Как мне потом рассказали, они в Минске захватили двух людей, которые стояли возле джипа «Чероки». Их захватили, а потом подъехали быстро наши машины, этих людей закинули по одному в каждую машину. За руль джипа посадили солдата из автороты по фамилии Мекиянец. Так колонной около часа ночи они приехали в часть.

Я слышал, как машины подъехали. Но в часть они сразу не заезжали. После того, как машины остановились, было два выстрела с небольшим перерывом. Через какое-то время БМВ и «Ауди» заехали на территорию части. Как мне показалось, мне потом и рассказали, джип остался в лесу, недалеко от части. Офицеры и «сверчки» пошли ужинать, потом спать.

На следующий день по приказу сразу после завтрака где-то в 9.30 нас погнали в лес яму копать. С нами пошел Павличенко. Копали до обеда где-то. Выкопали здоровую яму, глубокую. Сначала был песок, потом пошла какая-то глина с камнями. Мы выкопали яму и вернулись в часть. А вечером несколько «сверхсрочников» загрузили в ГАЗ-66 ломы и кувалды и поехали в лес к этой яме. Вместе с ними поехал БТР. Нам нем выехал командир автороты тогда еще лейтенант Коклин.

Джип загнали в яму, БТРом раздавили и укатали землей. Павличенко ничего не разрешил забирать из джипа. Кто-то хотел забрать магнитолу, но Павлик не дал.

*Окончание на стр.3*

# Новы налёт фінансавай міліцыі

Апошнім часам сталі вельмі частымі налёты міліцыі на офісы недзяржаўных арганізацыяў. Без прад'яўлення ордэраў або іншых дакументаў, якія б апраўдвалі іхнія дзеяньні, міліцыянты апячатваюць офісы арганізацыяў і канфіскоўваюць камп'ютэрную тэхніку.

Чарговай ахвярай такіх дзеянняў стала грамадскае аб'яднанне «Беларускі клуб выбаршчыкаў». Як паведаміў кіраўнік «Клуба» Уладзімір Гудзееў, учора каля 14.00 супрацоўнікі Фрунзенскага раённага аддзела фінансавай міліцыі гвалтоўна абшукалі яго, забралі ключы ад офіса «Беларускага клуба выбаршчыкаў», уварваліся туды і сканфіскавалі ўсю камп'ютэрную тэхніку. Асобна адзначаецца, што пратаколу канфіскацыі не складалася.

Да гэтага паведамлялася, што з раніцы 21 жніўня каля 20 супрацоўнікаў фінансавай міліцыі пад кіраўніцтвам Пятра Лінніка блакавалі будынак спорткомплексу на вул. Берута, 11, у якім месціцца офіс «Беларускага клуба выбаршчыкаў». Некалькі гадзінаў працягвалася супрацьстаянне – прадстаўнікі грамадскага аб'яднання не хацелі пускаць туды фінансавую міліцыю, закрыўшы дзверы на швабру і на ключ. Міліцыянты мелі намер зламаць дзверы, але потым проста абшукалі У.Гудзеева. Той да апошняга супраціўляўся правядзеннюператрусу, бо лічыў, што брыгада міліцыянтаў не мела для гэтага дастаткова паўнамоцтваў.

20 жніўня супрацоўнікі Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў наведалі цэнтральны офіс грамадскага аб'яднання «Беларускі клуб выбаршчыкаў» і забралі ўсе дакументы на абсталяванне, якім карыстаецца гэтае аб'яднанне.

А пачыналася ўсё з праверкі, якую супрацоўнікі фінансавай міліцыі правялі ў «Беларускім клубе выбаршчыкаў» 17 жніўня. Праверка цягнулася каля 3 гадзінаў, па выніках яе быў складзены акт. Ад грамадскага аб'яднання міліцыянты патрабавалі прадставіць 20 жніўня дакументы на тэхніку, што знаходзіцца ў офісе, і фінансавую справаздачу аб дзейнасці арганізацыі.

**Міхась КАРПОВІЧ**



Фота Ул. ШЛАПАКА

Журналісты распытваюць начальніка Фрунзенскага МА УДКФР П.Ліннік пра мэты «візіту» ў Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў

**◄ У рэдакцыю НАШАЙ СВАБОДЫ прыйшоў чалавек. Ён аддаў нам відэакасету і раптоўна сышоў. На касеце невядомая асоба распавядае пра падрабязнасці знікнення Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага ў 1999 годзе. Твару чалавека не бачна – толькі сілуэт, і голас відавочна зменены. Мы прыводзім поўны тэкст запісу.**

## Маці Лукашэнкі спадзяецца, што сын прайграе на выбарах. І яны вернуцца ў вёску

Падчас наведваньня Гарадзенскай вобласьці Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што ягоная маці спадзяецца, што ён прайграе прэзыдэнцкія выбары, і яны змогуць вярнуцца на родную вёску. У размове з сяльчанамі калгасу «Россия» ён заявіў: «Не при журналистах будет сказано, но моя мать мне говорит: вот пройдут президентские выборы, не изберут тебя — и домой поедем», паведамляе агенцтва Рэйтэр.

Па словах прэзыдэнта, ён вельмі рады, што комплекс «Дразды» знаходзіцца ў лесе. Як паведамляе Рэйтэр, Лукашэнка заявіў: *«Это хорошо, что меня в лесу поселили — в городе я не смог бы жить. И сыновья мои не могут в городе прижиться... Такая у нас, сельчан, душа»*. Лукашэнка не толькі заявіў пра сваю блізкасьць да вясковага жыцьця, але й даказваў яе на справе: падчас наведваньня жывёлагадоўчай фермы ён вызначаў па паху якасьць камбікармоў.

## Лукашэнка рыхтуецца да горшага

Учора стала вядома пра магчымы план дзеянняў Аляксандра Лукашэнкі ў выпадку паразы на прэзідэнцкіх выбарах. Маскоўскія «Новые известия» змясцілі вытрымкі з аналітычнай запіскі, падрыхтаванай прэзідэнцкай адміністрацыяй. Паводле змесціву дакумента, развітваць з уладай на бліжэйшыя 5 гадоў цяперашні кіраўнік краіны зусім не плануе. Адміністрацыя прэзідэнта рыхтуе незаконныя захады, якія дазволяць сілавым шляхам захаваць уладу А.Лукашэнкі на наступныя пяць гадоў.

**ЛукаЧП**

Лукашэнкаўскія дарадцы, якія склалі план дзеянняў на «чорны дзень», аказаліся вельмі далікатнымі. Каб ліяні раз не нерваваць цяперашняга кіраўніка краіны самой ідэяй паразы, аналітыкі ўзгадваюць «узнікненне сітуацыі парытэту галасоў». Што ж чакае Беларусь і беларусаў у такім выпадку?

Аналітычная запіска раіць: не варта фарсіраваць абвяшчэнне канчатковых вынікаў выбарчай кампаніі. Замест іх неабходна наладзіць масавыя выступленні «патрыятычна настроеных грамадзянаў», якія і выкажуць сваё меркаванне аб несумненнай перамозе А.Лукашэнкі.

*Заканчэнне на стар.3*

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1465**

# Лукашэнка рыхтуецца да горшага

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Адначасова, падказваюць аналітыкі, усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі абрушваюць хвалю абураных выступаў грамадзянаў супраць шматлікіх парушэнняў з боку апазіцыі. Прыхільнікаў кандыдата-пераможцы абвінавацяць у «ажыццяўленні агітацыі, подкупе грамадзянаў і пагрозах выбаршчыкам пры наведванні выбарчых участкаў».

Апроч гэтай «лірыкі», плануецца і больш сур'ёзныя дзеянні. З моманту пачатку папярэдняга галасавання і да афіцыйнага абвяшчэння вынікаў выбараў усе сілавыя структуры будуць пераведзены на ўзмоцнены рэжым нясення службы.

У выпадку ўзнікнення «масавых беспарадкаў, якія будуць дэстабілізаваць абстаноўку ў сталіцы» (г. зв. «югаслаўскі варыянт», які «прадказваў» А.Лукашэнка 31 ліпеня на нарадзе выканаўчых работнікаў. – **Р.П.**) плануецца перакрыць усе офісы апазіцыйных структураў, перапыніць вяшчанне тэлевізійных каналаў і нават адключыць міжгароднюю і міжнародную сувязь.

Цалкам комплекс мерапрыемстваў, выпрацаваны ў нетрах лукашэнкаўскай адміністрацыі, вельмі нагадвае путч. Прычым даволі няўдалы – накшталт ГКЧП дзесяцігадовай даўніны.

### Перадвыбарчная гісторыя

Тым часам, працягваецца апантанае нагнятанне перадвыбарчай істэрыі вакол кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі. Дзяржаўная газета «Советская Белоруссия» два нумары запар друкавала на першай старонцы надзвычай



Фота Ул. ШЛАПАКА (архіў)

вялікім шрыфтам «Разам! А.Р.Лукашэнка – наш прэзідэнт». Хоць «Советская Б.» – газета дзяржаўная, і таму мусіць прадстаўляць інтарэсы усіх грамадзянаў Беларусі, а не толькі тых, хто моліцца на вусатую ікону.

Учора гэтая ж газета надрукавала перадвыбарчую праграму гэтага ж кандыдата. Хоць магла любога іншага з чатырох. У якасці ілюстрацыі быў абраны фотаздымак у лепшых дыктатарскіх традыцыях: А.Лукашэнка трымае на руках маленькую дзяўчынку і кветкі. Здавалася б, такі від «мастацтва» даўно скампраметаваў сябе пасля аналагічных фотаздымкаў Сталіна і Гітлера. Але выкарыстоўваецца дагэтуль.

Афіцыйнае агенцтва БелТА рапартуе, што, паводле сацыялагічнага апытання, праведзенага «комплекснай групай сацыёлагаў», рэйтынг А.Лукашэнкі падвысіўся з 51,4% да 57,4%. Тады як рэйтынгі яго ных канкурэнтаў нібыта складаюць: Сяргей Гайдукевіч — 1,5%, Уладзімір Ганчарык — 2,3%, Сямён Домаш – 2,9%. Прычым, гэтыя рэйтынгі з цягам часу толькі падаюць. Цікава, што «сацыёлагі» находзяць з аднай афіцыйнай структуры, якая корміцца на бюджэтныя грошы (не без дапамогі цяперашняга кіраўніка дзяржавы), а таксама двух установаў, якія «кормяцца» за кошт існавання міфічнай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Ідзе моцная інфармацыйная «прамыўка мазгоў» з разлікам на тую вялікую частку насельніцтва (да 30%), якія да апошняга не маглі вызначыцца з «сваім» кандыдатам.

Як ні дзіва, але ўсе гэтыя намаганні могуць прынесці хутчэй адмоўны вынік. Па-першае, метады, якімі карыстаюцца «паліттэхнолагі», запомніліся многім з савецкіх часоў і нарад іх абудзяць салодкае пачуццё настальгіі. Па-другое — і гэта больш небяспечна для цяперашніх уладаў — звесткі накшталт такіх «сацыялагічных апытанняў» толькі супакойваюць нервы А.Лукашэнкі і яго ных памагатых і абуджаюць у іх спакой. Замест сапраўдных звестак з «сацыялагічнага фронту» уладны кандыдат атрымоўвае цукерку для ўласнага задавальнення. І таму ўжо 10 верасня ён можа быць сур'ёзна шакіраваны вынікамі галасавання.

### Мядзведжая паслуга

Пры ўсіх няпростых перыпетыях барацьбы за прэзідэнцкае крэсла А.Лукашэнка робіць крокі, якія нібыта мусяць даказаць ягоную высакароднасць.

У панядзелак, як паведамляе НТВ.ru, цяперашні кіраўнік дзяржавы прапанаваў сваім канкурэнтам скарыстацца паслугамі дзяржаўнай аховы ў адпаведнасці з законам «Аб дзяржаўнай ахове».

Відавочна, што гэтая «дапамога» хутчэй закліканая была паставіць пад кантроль усе дзеянні лукашэнкаўскіх канкурэнтаў. А калі ўзгадаць усе апошнія скандалы знікненняў вядомых асобаў у Беларусі і дачыненне да гэтых злачынстваў супрацоўнікаў прэзідэнцкай аховы, то становіцца ўвогуле небяспечна мець за спіной такога «ахоўніка». Бо, калі што, ён сам першым угоніць нож у спіну непажаданаму канкурэнту А.Лукашэнкі.

Тым не менш, усе гэтыя матывы не замінулі кандыдату ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі, «беларускаму Жырыноўскаму» Сяргею Гайдукевічу пагадзіцца на такую ахову. Прэстыжна, канешне, што цябе некалькі дзён будзе ахоўваць чалавек, які раней ахоўваў кіраўніка дзяржавы. Але якая з таго карысць? Няўжо ён сапраўды апасаецца, што на яго будуць рыхтаваць замах?

Адзіны кандыдат ад шырокай апазіцыі Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш адмовіліся ад такога «падарунку». Лепш за ўсё гэта аргументаваў С.Домаш: маўляў, гэтая ахова будзе толькі замінаць працы. А У.Ганчарык знайшоў кампраміс: ён дапускае прысутнасць целаахоўнікаў у падарожжах па Беларусі і падчас правядзення масавых мерапрыемстваў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# «Нельзя, чтобы этот вопрос был просто похоронен»

*Окончание. Начало на стр.1*

Взяли только большой аккумулятор. Его потом ставили на разные машины, он был в автороте как подменный. Только с трупов еще раньше сняли золото и выбросили в озеро.

В операции по захвату людей также участвовали прапорщик Мурашко, такой под сорок лет, спецназовец, и «краповики-сверхсрочники» Юрий Будько и Новаторский, по-моему Владимир. Они и на другие дела ездили. Фамилии еще нескольких из этой группы не знаю, но могу опознать. Одного, который рядом со знаменем, часто показывают по телевизору в рекламе ветеранов спецназа. Их фотки есть в буклете про наши войска.

После этой операции все участники группы получили деньги. Их передал министр Сиваков через Павличенко. Я знаю, что он сказал «Это всем на моральное успокоение».

Еще я знаю, что когда расстреливали этих людей, их убивали «Именем президента!»

Сейчас Павличенко ездит по стране. Он собирает людей своих, бывших краповиков и говорит «Мы еще свое слово не сказали. Надо президента защищать президента». Говорит, что денег не меряно. Но после всего этого шума в прессе ему многие не доверяют, голову не хотят подставлять.

На мне крови нет. Сейчас я боюсь за свою жизнь и жизнь своей семьи. Я прошу КГБ, прокуратуру, журналистов — найдите и допросите всех этих людей, которых я назвал. Допросите непосредственных участников. Это Будько, Новаторский, Мекиянец, Коклин, Мурашко, Павличенко. Допросите их, солдат, которые в тот вечер были в наряде, допросите тех, кто яму копал. Они все видели. Нельзя, чтобы этот вопрос был просто похоронен.

Все.

# Камітэт дзяржбяспекі ўмывае рукі

Відэаматэрыял з расказам аб абставінах знікнення Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага «не ўтрымлівае нічога, што магло б прыцягнуць увагу Камітэта дзяржаўнай бяспекі». Пра гэта БелаПАН заявіў начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі Фёдар Котаў, пасля таго як з відэакасетай азнаёміліся кіраўніцтва камітэта. Такі вывад, паводле яго словаў, быў зроблены на падставе «зместу і формы падачы матэрыялу».

Напомнім, што 20 жніўня невядомыя даставілі ў мінскі офіс інфармацыйнай кампаніі БелаПАН відэакасету з запісам прыкладна 20-хвіліннага маналога чалавека, які назваўся былым ваеннаслужачым унутраных войскаў МУС. Ён расказвае аб падрабязнасцях знікнення ў верасні 1999 года ў Мінску першага віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага. У матэрыяле фігуруюць некалькі новых прозвішчаў, якія, на погляд аўтара паведамлення, могуць праліць святло на падзеі, звязаныя са знікненнем вядомых у Беларусі людзей. Твару чалавека на плёнцы не відаць, яго голас моцна скажоны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Аарон РОУДЗ: «Прэзідэнт Беларусі баіцца дэмакратыі»



Фота Ул. ШЛАПАКА

21 жніўня выканаўчы дырэктар Міжнароднай Хельсінкскай Федэрацыі Аарон Роўдз разам з кіраўнікамі Беларускага і Літоўскага Хельсінкскіх камітэтаў падзяліўся з журналістамі сваімі ўражаннямі пра хаду выбарчай кампаніі ў краіне.

«Складваецца ўражанне, што прэзідэнт Беларусі баіцца дэмакратыі, мяркуючы па ягонай заяве 31 ліпеня. Ён чакае, што дзяржаўны апарат будзе забяспечваць ягонае пераабранне, што парушае і мясцовае заканадаўства, і міжнародныя нормы. Тое, што мы бачым, не падобнае на нармальную выбарчую кампанію», – заявіў Аарон Роўдз.

Яго ўразілі антызаконныя дзеянні выканаўчай улады. «Выканаўчая ўлада не ставарае ўмоваў для справядлівых выбараў; наадварот, існуюць бюракратычныя механізмы для падтасоўвання вынікаў выбараў», – сказаў прадстаўнік МХФ.

Вось яшчэ некалькі ўражанняў выканаўчага дырэктара Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыі: «У вашай краіне многія знаходзяцца над ціскам, вельмі многія людзі цалкам залежаць ад дзяржавы. Доўгатэрміновае назіранне ў чыстым выглядзе не абавязкова вядзе да парушэнняў, але сістэма, якую мы бачым, не можа забяспечыць празрыстасць працэсу. Назіральнікі сустракаюцца з запалохваннем».

Кіраўнік Літоўскага Хельсінкскага камітэта Стасіс Каўшыніс увогуле параўнаў цяперашнюю кампанію з сумнавядомым рэферэндумам 1996.

Старшыня БХК Тацяна Працька выказала надзвычайную заклапочанасць тым, што ў выбарчы працэс уцягваюцца сілавыя структуры. «Усё часцей у выбарчым працэсе выкарыстоўваюцца спецслужбы. У Бабруйску нашаму назіральніку адмовілі ў прысутнічаць пры фарміраванні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі, КДБ сказаў: ніякіх наглядальнікаў не пускаць. Гэта вельмі небяспечная тэндэнцыя», — заявіла Т.Працька.

**Рыгор БУЯН**

# Місія БДІПЧ пачала працаваць

20 жніўня ў Мінску распачала работу місія Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ на чале з Храерам Бальянам, у склад якой уваходзяць 13 экспертаў. А наступным днём яшчэ 15 наглядальнікаў пачалі працаваць у рэгіёнах Беларусі.

Паводле Цэнтрвыбаркама, акрэдытацыю атрымалі прыкладна 220 наглядальнікаў з 25 краінаў свету. Найбольш прадстаўнічая дэлегацыя чакаецца, вядома, з Расіі: дэпутаты Дзярждумы, Савета Федэрацыі Расіі, МЗС. Сярод краінаў далёкага замежжа пацвердзілі ўдзел у назіранні Францыя, Японія, Вялікабрытанія, Нідэрланды. Для іх праблемаў з уязнымі візамі па зразумелых прычынах не было.

Іншая справа — БДІПЧ АБСЕ, адзіная спецыялізаваная ў Еўропе структура, якая займаецца назіраннем за выбарамі. Доўгатэрміновыя наглядальнікі БДІПЧ мусілі прыехаць у Мінск за шэсць тыдняў да дня выбараў, гэта значыць не пазней за 27 ліпеня. Аднак афіцыйны Мінск на розных прычынах зацягваў з запрашэннямі для БДІПЧ. Адкрыццё офіса арганізацыі, планаванае на 1 жніўня, не адбылося: першых наглядальнікаў проста не пусцілі ў краіну. Доўгатэрміновыя наглядальнікі з-за непрадастаўлення запрашэння з беларускага боку прыехалі ў беларускую сталіцу толькі 17 жніўня.

150 кароткачасовых наглядальнікаў прыедуць у Мінск напярэдадні выбараў. Яшчэ да 50 наглядальнікаў з краінаў-сябраў АБСЕ будуць сачыць за ходам галасавання непасрэдна 9 верасня.

Місія збірацца ацаніць адпаведнасць выбарчага працэсу патрабаванням стандартам АБСЕ, іншым міжнародным актам і беларускаму заканадаўству. У дадатак да таго, назіральнікі правядуць маніторынг выбарчага працэсу, зважаючы больш на тое, наколькі збалансавана кампанія асвятляецца СМІ. Аднак, як гаворыцца ў прэс-рэлізе КНГ АБСЕ, «маштабы дзеяння місіі значна абмежаваныя, што з'явілася вынікам позняга запрашэння наглядальнікаў».

10 верасня місія сумесна з іншымі міжнароднымі арганізацыямі вынесе свой вердыкт адносна дэмакратычнасці прэзідэнцкіх выбараў.

«Улады цягнулі з запрашэннямі таму, што давалі зразумець: місія БДІПЧ з'яўляецца персонай нон-грата», – заявіў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13 склікання Анатоль Лябедзька.

**Рыгор БУЯН**






# Свае зруйнуюць лепш за шведаў

*З беларускіх помнікаў архітэктуры ўнесены ў Спіс сусветнай спадчыны толькі Мірскі замак. Апрача яго ў гэтым міжнародным дакуменце Беларусь прадстаўленая толькі помнікам прыроды – Белавежскай пушчай.*

Зразумела, што помнік гэтакай значнасці выклікае да сябе ўвагу грамадства. І што варта адзначыць, грамадства зважае на гэты замак і працэсы вяртання яго народу ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Невыпадкова таму, што на выязной калегіі міністэрства культуры па пытанні зберажэння аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны ў Гродзенскай вобласці разгляд рэстаўрацыйных работ на Мірскім замку быў адным з галоўных пытанняў.

Аднак, як гэта ні дзіўна, рашэнні калегіі зафіксавалі толькі праблему стварэння музейнай экспазіцыі ў адрэстаўраваных памяшканнях замка. Такія памяшканні пакуль што можна пералічыць па пальцах, і музейшчыкі будуць поўнымі гаспадарамі ў сусветнай архітэктурнай славутасці яшчэ не хутка. А дзіўна гэта таму, што не вырашаюцца значныя праблемы рэстаўрацыі замка.

Хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй рэстаўрацыі Міра, ведае, што яшчэ ў 70-я гады ХХ стагоддзя вывучэннем Мірскага замка пачаў займацца архітэктар Валянцін Калнін. Над праектам яго рэстаўрацыі працавалі Сяргей Верамейчык, Вольга Атас. Але іх імёны, як і многіх іншых даследчыкаў, архітэктараў, хто шчыраваў над загадкамі знакамітага помніка дойлідства, схаваныя з вачэй. Прыходзіцца думаць, што невыпадкова.

Апошняе дзесяцігоддзе кіраўніком работ па распрацоўцы праектнай дакументацыі па рэстаўрацыю і прыстасаванне Мірскага замка ёсць старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Бубноўскі. Спалучэнне службовай пасады і творчай работы выглядае дастаткова незвычайным, можна смела сказаць унікальным: чалавек сам вызначае характар работ па помніку архітэктуры, сам ачольвае іх правядзенне, сам сябе ў гэтай справе кантралюе. Проста як у вершы Твардоўскага: «Это словно как машина скорой помощи идет. Сама режет, сама давит, сама помощь подает». Сёння сітуацыя тут такая, што мала хто са спецыялістаў-рэстаўратараў можа хоць нешта распавесці пра асаблівасці праекта рэстаўрацыі замка, пра будучыню адзінага помніка архітэктуры з самым высокім у Беларусі ахоўным статусам.

Дзякаваць богу, што вытворчы ўчастак прадпрыемства «Мінскрэстаўрацыя» на Мірскім замку ўзначальвае Браніслаў Кракавецкі. Гэта чалавек, апантаны ідэяй рэстаўрацыі мірскай фартыфікацыі. Не лёгка яму ў свае 69 гадоў па некалькі разоў на дзень уздымацца на паверхі па вузкіх пакручастых пераходах замкавых пабудоваў, сплятаць у адзінае мноства пытанняў, якія паўстаюць пры правядзенні рэстаўрацыйных работ. Між сабой яго называюць князь Мірскі. І гэта не мянушка, а адзнака чалавечай вартасці. Часам яму даводзіцца прымаць уласныя рашэнні па выкананні работ, бо завершанага праекта рэстаўрацыі, як гэтага патрабуе заканадаўства, няма.

У адносінах да Мірскага замка такі стан рэчаў можа падацца неверагодным. Аднак відавочны факт – работы выконваюцца літаральна з ліста, а, бывае, і са словаў. Усё трымаецца на вопыце і інтуіцыі спадара Браніслава.

Адсутнасць камплекта праектнай дакументацыі спараджае пры выкананні работ на замку немалую хаатычнасць. Звонку здаецца, што рэстаўрацыя завершана на трох вежах і мурах галоўнага фасада, на баявой галерэі паўднёвай сцяны. Выглядае амаль цалкам адрэстаўраваным паўночны корпус палаца. Аднак толькі ў памяшканнях паўднёва-заходняй вежы дзейнічае музейная экспазіцыя. Экскурсанты могуць прашпацыраваць колькі метраў па адрэстаўраванай баявой галерэі паўднёвага мура.

Пустыя стаяць памяшканні надбрамнай вежы. Не вядуцца работы ў паўночным корпусе замкавага палаца і прылеглай да яго паўночна-заходняй вежы. Колькі гадоў таму назад паміж абарончым валам і вонкавай паўночнай сцяной замка быў збудаваны масіўны арачны мост. Які вядзе... у нікуды. Калі-небудзь, пасля завяршэння рэстаўрацыйных работ на ўсім паркава-замкавым комплексе, па ім, магчыма, можна будзе спусціцца ў італьянскі сад. Сёння ж гэтае грандыёзнае збудаванне з цэглы нікому не патрэбнае. Да таго ж няма дакументальных сведчанняў, што выгляд цяперашняга моста адпавядае свайму гістарычнаму папярэдніку. Інакш кажучы, сучасныя архітэктары ажыццявілі свае цьмяныя ідэі на грунце слядоў ад апораў колішняга моста. Але на збудаванне было патрачана шмат сілаў рабочых, цэгла, цэмент, сродкі, якіх так не хапае пры рэстаўрацыі існуючых замкавых будынкаў.

Атрымалася: і мост недабудаваны, і пакінутыя паўночны корпус, надбрамная і паўночна-заходняя вежы, а ў сценах паўднёва-ўсходняй вежы зробленыя вялізныя праломы, куды залівае дождж. Рабочыя ўвесь імпэт скіравалі на ўсходні корпус палаца, дзе павінен, паводле задумы праектантаў, размясціцца невялікі элітны гатэль, рэстаран ды памяшканні для нейкіх прадстаўнічых мерапрыемстваў.

Пра рэстаўрацыйныя работы ў гэтым корпусе гаварыць не даводзіцца. Там адбываецца самае звычайнае будаўніцтва: манціруюцца лесвічныя пралёты, ліфтавыя шахты, узводзяцца цагляныя перагародкі, паверхі перакрываюцца жалезабетонам, устанаўліваюцца металічныя кроквы. Асабліва ўражвае, што праектантамі аддадзены загад рабочым на разборку квадратнай у плане прыбудовы 30-х гадоў мінулага стагоддзя каля ўсходняй сцяны замка, у якой існаваў пераход паміж першым і другім паверхамі ўсходняга корпуса. Можна без перабольшвання меркаваць, што такая рэстаўрацыя прывядзе нарэшце да таго, што замак будзе выкрэслены са спісу сусветнай спадчыны, бо стане навабудам.

Некалі ў друку з прыдыханнем пісалася, як рэстаўратары наважваюцца захаваць у замкавых мурах ледзьве не кожнае сведчанне яго будаўнічай гісторыі. Але змяніўся час, новыя людзі прынеслі з сабой недарэчнае бачанне спосабаў захавання помнікаў мінулага. Па іх разуменні, захаваўчы працэс пачынаецца з руйнавання.

Такім чынам, дарэчы, «рэстаўравалася» некалькі гадоў таму назад паўночна-заходняя вежа, калі была разбураная ці не трэцяя яе частка, якую затым збудавалі з сучаснай цэглы.

Складаецца ўражанне, што кваліфікацыі спецыялістаў, якія выконваюць праектныя і даследчыя работы на замку, недастаткова, каб кіравацца прынятымі ў свеце стандартамі рэстаўрацыйнай практыкі. Як вядома, Венецыянская хартыя вызначае адным з асноўных клопатаў рэстаўратара дбанне аб аўтэнтычнасці гістарычнага аб'екта. Неабходнасць зберажэння ацалелых элементаў помніка прадэкларавана ў многіх іншых хартыях і пратаколах, якімі паслугуюцца ў сваёй дзейнасці рэстаўратары не толькі Еўропы, а, бадай, і ўсяго свету.

Але, як і ў іншых сферах жыцця, у рэстаўрацыі наша краіна імкне праторыць уласную дарогу. З распаўсюджаннем новабудаў у гістарычных кварталах гарадоў не ў стане саўладаць нават рэспубліканская пракуратура. А вось зараз такі дзікунскі прынцып арганізацыі работ распаўсюджваецца і на помнік архітэктуры сусветнага значэння.





Фота Ул. ШЛАПАКА

Мадэрнізацыя Мірскага замка на гэтым не спыніцца. Праз невялікі час настане пара завяршыць работы на даху ўсходняга корпуса палаца. Для гэтага патрэбна дахоўка. Аднак вядомыя беларускія яе вытворцы не гатовыя пастаўляць на ўнікальны аб'ект неабходную невялікую партыю выраба. Самае ж галоўнае, што беларуская дахоўка мае надзвычай нізкую якасць. Здаецца, нядаўна быў пакрыты паўночны корпус, а некалькі сотняў керамічных плітак ужо давялося замяніць.

І зноў прымяняецца надзвычай простае, але ж далёка не геніяльнае рашэнне: выкарыстаць для пакрыцця даху Мірскага замка металадахоўку. Самае адметнае, што такую дзікую рэкамендацыю дала калегія, якая была закліканая вырашыць пытанні зберажэння гісторыка-культурнай спадчыны ў Гродзенскай вобласці. Што і казаць адносна астатніх помнікаў архітэктуры, калі такая прапанова агучаная ў адносінах аб'екта найвышэйшай ступені аховы. Таму і сцелюць «спяцы ад беларускай рэстаўрацыі» на класічныя, барочныя, гатычныя, мадэрновыя будынкі металадахоўку адной і той жа хваліставай формы, пафарбаваную ў колеры, якіх у гісторыі не толькі беларускага, але і сусветнага дойлідства ніколі не было: сіні, зялёны, ультрамарын. Справа дайшла ўжо і да абсурду: ацалелае цягам сотняў гадоў керамічнае пакрыццё даху славутай абарончай царквы XVI стагоддзя ў Мураванцы было заменена на медны ліст.

Сумна становіцца ад такой рэстаўрацыі. Тут да месца гаварыць пра самую банальную, нічым не прыкрытую, гвалтоўную фальсіфікацыю архітэктурна-будаўнічых традыцыяў.

Дзіўнымі выглядаюць слуховыя вокны, дзе абабітыя ацынкоўкай, дзе пафарбаваныя ў карычневы колер, на паўночным корпусе палаца. Праз іх мае асвятляцца размешчаная ў паддашшы зала для правядзення канферэнцыяў. Апынуўшыся там, адчуваеш сябе, быццам, у чэраве нейкага прамысловага аб'екта. Металічныя бэлькі крокваў і распорак рэзка кантрастуюць з пакрыццём з гафрыраванай ацынкаванай бляхі. Наўрад ці безгустоўны інтэр'ер будзе ствараць утульнасць для удзельнікаў міжнародных, ды і айчынных форумаў.

Не дужа радуе і сам замкавы двор. Будка, у якой месціцца білетная каса, студня, папсаваныя прыступкі ў паўднёва-заходнюю вежу, у якой туліцца не дужа багатая, хаця і з духам сярэднявечча, экспазіцыя. Навукола быльнёг. Дзе-кольвечы з-пад пяску праглядае брук.

Ад стаянкі аўтатранспарту да замка і ўвогуле няма ніякага машчэння. Дзесяткам наведвальнікаў унікальнай беларускай славутасці, некаторыя з якіх прыехалі за сотні кіламетраў, даводзіцца цягнуцца па разбітай коламі машынаў пыльнай дарозе, а ў слотнае надвор'е абмінаць па брудзе запоўненыя вадой каляіны.

Ні табе сувеніраў, ні нейкіх іншых адмысловых памятак у самім замку і на падыходах да яго, як і ў мястэчку Мір, купіць немагчыма. Гэтаксама немагчыма наталіць смагу пасля доўгай дарогі. Нешта прыстойнае з'есці можна, толькі праехаўшы колькі дзесяткаў кіламетраў, на выбар, у Нясвіж або Навагрудак.

Пакуль рэстаўруецца Мірскі замак, у здратаваным парку развальваецца капліца, у якой некалі знайшлі вечны спачын Святаполк-Мірскія. Абсыпаюцца гзымсы, вылушчваецца мураўка, абвальваюцца пілястры, тырчыць паржавелая бляха. І няма нават намеру хаця б крыху законсерваваць адметны сваімі мастацкімі вартасцямі будынак.

Пасля ўсяго ўбачанага ў Міры трывожна становіцца за другі шэдэўр беларускага дойлідства палацавы комплекс у Нясвіжы, дзе пакрысе разгортваюцца рэстаўрацыйныя работы. Трывожыць, перадусім, адсутнасць інфармацыі пра спецыялістаў, якія займаюцца яго вывучэннем, працуюць над праектам. Як і пра Мірскі замак, нічога невядома пра будучыню Нясвіжскага палаца. Тайнай тайнаў з'яўляецца скарбашукальніцтва ў сутарэннях колішняй радзівілаўскай сталіцы. Памятаецца, калі палякі распачыналі работы на варшаўскім Каралеўскім замку або літоўцы на віленскім Ніжнім замку, пагалоска пайшла па ўсім свеце. Можа таму і маюць рэальныя вынікі ў справе рэстаўрацыі нашы суседзі, што не робяць з гэтага непатрэбнай тайны, што не дазваляюць руйнаваць ва ўгоду недасведчанасці ці хамскаму густу.

**Ядвіга МАТУСЕВІЧ**

## Залатыя зліткі на памяць пра Беларусь

Нацыянальны банк Беларусі прыступіў да рэалізацыі юрыдычным і фізічным асобам залатых мерных зліткаў самай высокай якасці (проба 999,9). Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі галоўнага банка краіны.

Паводле спецыялістаў, вопыт паказвае, што найбольшай папулярнасцю карыстаюцца мерныя зліткі наміналам 1 і 5 грамаў. Яны, як і памятныя манеты, выкарыстоўваюцца з мэтай накаплення, калекцыяніравання, а таксама ў якасці сувеніра ці падарунка. Нацбанк улічыў гэтую асаблівасць пры вырабе мерных зліткаў. Акрамя таго, яны выкананы і наміналамі 10, 20, 50, 100, 250, 500, 1.000 грамаў. Па дадзеных Нацбанка, цана аднаго грама золата па стане на 20 жніўня складала 19.314 рублёў.

Галоўны банк краіны гатовы рабіць і зваротны выкуп прададзеных залатых мерных зліткаў з абрэвіятурай Нацыянальнага банка, а таксама залатых мерных зліткаў расійскай вытворчасці.

Залатыя мерныя зліткі пакуль рэалізоўвае галоўнае ўпраўленне Нацбанка па гораду Мінску і Мінскай вобласці. Але ў перспектыве іх можна будзе набыць і ў іншых галоўных упраўленнях у абласных цэнтрах і аддзяленнях у Барысаве, Маладзечне, Баранавічах, Пінску, Драгічыне, Оршы, Полацку, Жлобіне, Мазыры, Лідзе, Бабруйску. Тут як зараз ёсць у наяўнасці памятныя і юбілейныя манеты з каштоўных і некаштоўных металаў, якія знаходзяцца ў абароце і з'яўляюцца законным плацёжным сродкам: 5 відаў залатых, больш за 20 срэбраных і 16 – медна-нікелевых.

**Аляксей АРЭШКА**

## У Брэсцкай крэпасці — дзявочы прытулак

Горш чым фашысты пакалечылі будынак былой школы малодшых камандзіраў на Шпітальнай выспе Брэсцкай крэпасці сучасныя рабаўнікі. У страшным 41-м штурмавікі 45-й пяхотнай дывізіі вермахта не змаглі знішчыць цвярдыню з чырвонай цэглы — яна затым ажно да 1990 служыла як казарма для будаўнічага батальёна. Салдаты першымі выдралі вокны і дзверы, сарвалі падлогу. Шыфер на даху і батарэі ацяплення зніклі, калі па дамове са ЖРЭУ Брэсцкага гарвыканкама за дзяржмаёмасцю назіралі супрацоўнікі міліцэйскага аб'яднання «Ахова»...

З цёплых дзён гэтага лета ў разрабаваным будынку на Шпітальнай выспе працуюць вернікі Свята-Мікалаеўскай гарнізоннай царквы і некалькі прафесійных муляраў. Старшы на рамонце — эканом Брэсцкай і Кобрынскай праваслаўнай епархіі Валеры Навуменка гаворыць, што ёсць спадзяванні закрыць на зіму дах і вокны, каб можна было працягваць унутранае аднаўленне. Царкоўныя людзі змаглі атрымаць ад Брэсцкага гарвыканкама дазвол на стварэнне тут прытулку для бяздомных дзяўчынак. А каб гэтая дабрачынная ўстанова ў крэпасці не паходзіла на самотныя школы-інтэрнаты, епархія хадайнічае перад гарвыканкамам аб перадачы ў сталае карыстанне зямельнага ўчастка ў 1,23 гектара. Разам з манашкамі дзеці без бацькоў змогуць набыць належнае выхаванне і працоўныя навыкі. Можа, нарэшце крэпасць ажыве.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

